ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 74(5256)
Чацвер, 5 ліпеня 2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

# Прэзідэнт краіны вітае выпускнікоў ВНУ

З будучыняй маладога пакалення мы звязваем працвітанне нашай дзяржавы. Гэтымі словамі вітаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка выпускнікоў ВНУ, якія сабраліся 30 чэрвеня ў Палацы Рэспублікі на свой развітальны баль. Вы — першыя дыпламаваныя спецыялісты новага тысячагоддзя, і заканчэнне ВНУ падводзіць вас да новага этапа жыцця, — сказаў Прэзідэнт. — Вашы веды, сілы, энергія будуць дастойна ацэнены нашай дзяржавай.

Прэзідэнт адзначыў, што права на адукацыю гарантавана Канстытуцыяй нашай краіны. Дыпломаў аб вышэйшай адукацыі ў гэтым годзе ўдастоены каля 38 тысяч выпускнікоў. З іх 32 тысячы закончылі дзяржаўныя ВНУ. У сваіх добрых словах на дарогу Прэзідэнт пажадаў маладым людзям здароўя і поспеху, а таксама, каб яны рэалізавалі атрыманыя ў навучальных установах веды на карысць дзяржавы.

НА ЗДЫМКУ: у час балю выпускнікоў ВНУ.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

Лета–2001

## Сонца хапіла ўсім

Здаецца, адышоў яшчэ адзін навучальны год, набіраюць разгон канікулы, а сярэдняя школа № 2 Дзяржынска па-ранейшаму поўніцца дзіцячымі галасамі: пры навучальнай установе дзейнічаюць аздараўленчыя летнікі.

Раніца. Дзяўчынкі і хлопчыкі спешна кіруюць на школьны стадыён — на зарадку, якую правядуць настаўнікі фізкультуры.

Гэта вучні малодшых класаў з летніка "Сонейка". Іх бацькі прывялі сюды, ідучы на працу. А будуць вяртацца — забяруць пасля 17 гадзін.

Добра дзецям у "Сонейку": ёсць абсталяваныя спальныя пакоі і неблагая сталовая, а настаўнікі-выхавацелі зладзяць прагулку ў парк, прагляд кінафільма, прапануюць займальныя рухомыя гульні.

А да паслуг вучняў сярэдніх класаў — профільны летнік "Эрудыт". Яго работа пабудавана так, што побач з аздараўленчым працэсам крочыць і пазнавальны: настаўнікі-прадметнікі скіроўваюць увагу вучняў на паглыбленае вывучэнне беларускай і рускай моў, матэматыкі, гісторыі.

Згодна штодзённых планаў праводзіцца разнастайная выхаваўчая работа. Адным словам, развіццё разумовых здольнасцей і пашырэнне кругагляду дзяцей арганічна сумяшчаецца з актыўным фізічным адпачынкам.

Цікавасць выклікала наведанне Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў — адзінай унікальнай установы ў краіне, размешчанай у райцэнтры. Дзяўчынкам і хлопчыкам быў прапанаваны дакументальны гістарычны кінафільм пра ваенныя падзеі на тэрыторыі Беларусі ў мінулую вайну. Наведанне архіва садзейнічала пашырэнню ведаў вучняў, выклікала пачуццё гонару за старэйшае пакаленне, аказала станоўчы ўплыў на разуменне паняцця дружба народаў.

Папоўнілі, удакладнілі дзяўчынкі і хлопчыкі з "Эрудыта" свае веды па гісторыі роднага краю — Дзяржыншчыны, наведаўшы мясцовы гістарычна-краязнаўчы музей.

Падчас адпачынку можна было паказаць сябе і ў справе: паўдзельнічаць ў розных конкурсах, КВЗ "Ці ведаеш ты гісторыю Беларусі?"

Карацей кажучы, "Эрудыт" пацвердзіў сваю назву. Мерапрыемствы інтэлектуальнага характару не перагружалі праграму, а рабілі яе змястоўнай, прывабнай і пазнавальна-выхаваўчай.

Мела месца і праца на прышкольным вучэбна-доследным участку, дзяжурства па сталовай.

**Тамара ШАЎЧЭНКА,**
**сацыяльны педагог, начальнік летніка "Эрудыт".**

Конкурсы

## Алімпіяда — гэта таксама спаборніцтва

***Сёння шмат гаворыцца аб прафесіяналізме выкладчыкаў, аб узаемадзеянні выкладчыка і вучня ў адзінай агульнаадукацыйнай прасторы. Усім вядома, што ад прафесійнага майстэрства выкладчыка залежаць актывізацыя творчай дзейнасці навучэнцаў, матывацыя вучэння. І гэта яшчэ раз пацвердзілі абласныя алімпіяды па прадметах агульнаадукацыйнага цыкла сярод навучэнцаў прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў Магілёўскай вобласці. У іх удзельнічалі 342 чалавекі з 28 ПТНУ вобласці.***

Алімпіяда — гэта спаборніцтва. І галоўная мэта гэтага спаборніцтва заключаецца ў тым, каб садзейнічаць раскрыццю творчых здольнасцей і магчымасцей асобы, далучаць да агульначалавечых каштоўнасцей, павышаць цікавасць да вывучаемых прадметаў.

На "выдатна" выступілі навучэнцы прафесійнага ліцэя № 1, эканамічнага прафесійна-тэхнічнага каледжа, ВПВ бытавога абслугоўвання насельніцтва Бабруйска. Навучэнцы гэтых навучальных устаноў яшчэ раз паказалі добрыя веды па прадметах і даказалі, што вучаць іх высокакваліфікаваныя педагогі, якія дасканала ведаюць прадмет, спецыялісты высокага класа. Такому стабільнаму шматгадоваму поспеху садзейнічае багатая практыка сур'ёзнай падрыхтоўкі навучэнцаў выкладчыкамі Н.Чыжовай, Т.Дадзьковай, І.Сцяпанавай, Т.Кірычэнка (прафесійны ліцэй № 1), С.Кунцэвіч, Г.Плешуновай, Н.Янчанка (эканамічны ПТК), М.Еднач, Г.Касцюковіч (ВПВ БАН Бабруйска), Г.Старыкавай (ПТВ № 4), А.Чумаковай (ПТВ № 58).

Радуе, што ў гэтым годзе навучэнцы ПТВ №№ 98, 217, ВПАТВ Крычава, ПТВ-58 выступілі на належным узроўні і сталі таксама прызёрамі алімпіяды. Відавочна, што педагогі у вышэйшай ступені адказна і творча аднесліся да падрыхтоўкі навучэнцаў.

Журы адзначыла паспяховае выступленне навучэнцаў ПТВ сельскагаспадарчага профілю №№ 139, 213, 215, 218, 219, ВПАТВ імя Арлоўскага.

Трэба адзначыць, што прафесійныя навучальныя ўстановы вобласці, на базе якіх праводзіліся абласныя алімпіяды, стварылі не толькі ўсе неабходныя ўмовы для правядзення алімпіяд, але і тую атмасферу свята, цяпла, павагі і клопату, якая надоўга запомніцца ўсім удзельнікам.

**Валянціна ХРАБТОВІЧ,**
**метадыст навукова-метадычнага цэнтра прафесійнай адукацыі Магілёва.**

З калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

## Будуць грошы — будуць і падручнікі

Калегія Міністэрства адукацыі на сваім чарговым пасяджэнні разгледзела пытанне "Аб стане работы па забеспячэнні агульнаадукацыйных школ рэспублікі падручнікамі, вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі, тэхнічнымі сродкамі навучання для арганізаванага пачатку 2001-2002 навучальнага года"

Былі заслуханы і абмеркаваны справаздачы дырэктара Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання З.П.Зносенка і Генеральнага дырэктара Беларускага рэспубліканскага гандлёвага аб'яднання "Глобус" Э.В.Пашкевіча.

Пры абмеркаванні пытання адзначана, што ў ходзе падрыхтоўкі да 2001-2002 навучальнага года Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Навукова-метадычным цэнтрам вучэбнай кнігі і сродкаў навучання праведзен шэраг мерапрыемстваў па забеспячэнні навучальных устаноў рэспублікі вучэбнай літаратурай.

У бібліятэчных фондах агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь налічваецца каля 1700 найменняў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для базавага, профільнага і паглыбленага ўзроўняў навучання, якія абнаўляюцца праз кожныя 5-6 гадоў. Штогод у школы рэспублікі пастаўляецца каля 300 найменняў падручнікаў, у тым ліку 10-15 найменняў — з Расійскай Федэрацыі.

Да 2001-2002 навучальнага года было запланавана выдаць 275 найменняў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для агульнаадукацыйных школ. Згодна з зацверджаным аб'ёмам фінансавання на 2001 год былі вызначаны прыярытэты ў выданні вучэбнай літаратуры. Першачаргова ажыццяўляўся выпуск падручнікаў для падрыхтоўчага, трэцяга і чацвёртага класаў агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання, а таксама для дзесятага класа школ з 11-гадовым тэрмінам навучання.

Выдадзена да 2001-2002 навучальнага года 92 працэнты падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для падрыхтоўчага класа, 93 працэнты — для трэцяга класа. Запланаваныя падручнікі для чацвёртага класа падрыхтаваны да друку. Першы і другі класы забяспечаны ў поўным аб'ёме вучэбнай літаратурай, выдадзенай у 1999, 2000 гадах адпаведна графіку фандавання.

Асаблівасцю пераходу на 12-гадовы тэрмін навучання з'яўляецца стварэнне вучэбна-метадычных комплексаў па ўсіх прадметах вучэбнага плана для падрыхтоўчага, першага, другога і трэцяга класаў школ з беларускай і рускай мовамі навучання. Пачатковая школа поўнасцю забяспечана нацыянальнымі падручнікамі, іх колькасць складае 371 найменне падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў.

Арганізацыя вучэбна-выхаваўчага працэсу ў 4-11 класах школ з 11-гадовым тэрмінам навучання будзе ажыццяўляцца па падручніках і вучэбных дапаможніках папярэдніх гадоў выдання. Давыданне вучэбнай літаратуры для 5-9 і 11 класаў праводзіцца ў адпаведнасці з цыклам фандавання.

Для 10 класа агульнаадукацыйных школ з 11-гадовым тэрмінам навучання выдадзена 50 працэнтаў ад запланаваных у 2001-2002 навучальным годзе новых нацыянальных падручнікаў згодна графіку ўвядзення новых праграм і падручнікаў.

У першым паўгоддзі 2001 года ў школы рэспублікі пастаўлена сем найменняў падручнікаў выдавецтва "Просвещение" Расійскай Федэрацыі агульным тыражом 79760 экзэмпляраў.

Па шэрагу прадметаў створаны нацыянальныя вучэбна-метадычныя комплексы базавага ўзроўню навучання (па беларускай і рускай літаратуры, геаграфіі, чарчэнню), а таксама для профільнага і паглыбленага ўзроўняў вывучэння рускай мовы, матэматыкі, інфарматыкі. Да падручнікаў па гісторыі і геаграфіі распрацаваны і выдадзены 84 насценныя карты для ўсіх класаў, контурныя геаграфічныя (5-10 класы) і гістарычныя (4-8 класы) карты. У 2001 годзе выдадзена 50 найменняў вучэбна-метадычнай літаратуры.

Для паспяховага навучання дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця ў фонды школьных бібліятэк былі пастаўлены, пачынаючы з 1996 года, 230 найменняў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў, 39 вучэбна-метадычных дапаможнікаў і 81 вучэбная праграма.

Да пачатку 2001-2002 навучальнага года запланаваны выпуск 59 найменняў падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для розных тыпаў спецыяльных школ. Выдадзена 37 вучэбных дапаможнікаў (62,7 працэнта), у тым ліку для дапаможнай школы — 24 вучэбныя дапаможнікі, для спецыяльных школ для дзяцей з цяжкімі парушэннямі мовы і дзяцей з затрымкай псіхічнага развіцця — 3, для спецыяльнай школы для дзяцей з парушэннямі слыху — 6, для спецыяльнай школы для сляпых дзяцей і дзяцей са слабым зрокам — 4. Упершыню ў рэспубліцы выдадзены ў 2001 годзе Буквар на беларускай мове для дапаможнай школы, завяршаецца выпуск рэльефна-графічнага Буквара для сляпых дзяцей.

У перыяд рэфармавання агульнаадукацыйнай школы значная ўвага ўдзяляецца падрыхтоўцы дзяцей дашкольнага ўзросту. У II квартале бягучага года выдадзены адукацыйны стандарт "Дашкольная адукацыя. Гатоўнасць да школы", а таксама шэраг дапаможнікаў па падрыхтоўцы дзяцей да сістэматычнай адукацыі. Садзейнічала гэтай рабоце праведзеная ў Навукова-метадычным цэнтры вучэбнай кнігі і сродкаў навучання выстаўка "Падрыхтоўка дзяцей 5-гадовага ўзросту да школы".

Да новага навучальнага года будуць выдадзены праграма "Выхаванне" на рускай і беларускай мовах, дапаможнік "Выхаванне ў першым класе" пад рэдакцыяй М.П.Осіпавай да эксперыментальнай мадэлі "Арыенцір" выхавання дзяцей пачатковай школы, зборнік нарматыўна-прававых дакументаў для педагогаў-псіхолагаў і іншыя.

Для аснашчэння кабінетаў фізікі, хіміі, матэматыкі, біялогіі і іншых Беларускае рэспубліканскае гандлёвае аб'яднанне "Глобус" паставіла ў гандлёвую сетку дапаможнікаў на суму 110 млн.руб., вучэбна-наглядных дапаможнікаў з Расіі на суму 19 млн.руб. У продажы ёсць вучэбныя відэафільмы па мастацтве, хіміі, фізіцы, астраноміі, біялогіі; камплекты табліц і муляжы для пачатковай школы, калекцыі і гербарыі, іншыя сродкі навучання. Аб'ём рэалізацыі школам рэспублікі сродкаў навучання, дакументацыі склаў 290,9 млн.руб., вучнёўскай мэблі і школьнага абсталявання — 211,2 млн.руб.

Разам з тым за два месяцы да пачатку навучальнага года выдадзены не ўсе запланаваныя падручнікі і вучэбна-метадычная літаратура.

Праблематычным застаецца своечасовае забеспячэнне падручнікамі 6 тысяч вучняў чацвёртых класаў школы з 12-гадовым тэрмінам навучання, новымі падручнікамі для 10 класа школы з 11-гадовым тэрмінам навучання. Адсутнасць поўнага і своечасовага фінансавання не дазваляе на працягу 2000-2001 гадоў ажыццявіць выпуск падрыхтаваных новых падручнікаў па музыцы (6 кл.), мастацтве (11 кл.), беларускай літаратуры (7,8 кл.), англійскай мове (9, 10 кл.), атласа па геаграфіі (7 кл.); перавыданне падручнікаў па геаграфіі (6, 8 кл.), фізіцы (11 кл.), алгебры і геаметрыі (7-10 кл.), атласа па геаграфіі (9 кл.), а таксама пастаўку падручнікаў па замежных мовах з Расіі: нямецкай мовы (10-11 кл.), французскай мовы (8, 9 кл.), падручнікаў для паглыбленага вывучэння англійскай мовы (8-11 кл.) і іспанскай мовы (1-8 кл.). Не забяспечаны метадычнымі дапаможнікамі настаўнікі рускай мовы, біялогіі, замежных моў, фізікі, хіміі. На складах кнігагандлёвых прадпрыемстваў знаходзіцца вучэбна-метадычнай літаратуры 2000-2001 гадоў выдання на суму 92,2 млн.руб., запазычанасць за пастаўленую літаратуру складае 95,8 млн.руб.

З'яўляецца вострай праблема забеспячэння агульнаадукацыйных школ сродкамі навучання. Абсталяванне кабінетаў фізікі, хіміі, геаграфіі, вучэбных майстэрняў з-за адсутнасці сродкаў ва ўстановах адукацыі амаль не абнаўляецца. Нягледзячы на тое, што Навукова-метадычны цэнтр вучэбнай кнігі і сродкаў навучання распрацаваў неабходныя нарматыўныя дакументы па вытворчасці сродкаў навучання (стандарты і іншыя) і забяспечыў разам з прадпрыемствамі прамысловасці Рэспублікі Беларусь навукова-тэхнічнае суправаджэнне работ па рэалізацыі "Пераліку сродкаў навучання і вучэбна-вытворчага абсталявання для агульнаадукацыйных школ і ПТВ", адсутнасць заказаў і фінансавання з боку ўстаноў адукацыі не дазволіла станоўча вырашыць гэтае пытанне. Закрыццё праграмы вучэбнага тэлебачання, якое з'яўлялася важнай складаючай часткай сістэмы сродкаў навучання ў школе, абвастрыла гэту праблему.

Калегія таксама разгледзела іншыя пытанні.

**Наш кар.**

### Падлетак у горадзе: летняе працаўладкаванне

"Хачу зарабіць грошы..." Гэтую фразу можна пачуць ад падлеткаў усё часцей і часцей. Прычынай таму — і складаны ў матэрыяльных адносінах час, і прагматычнасць нашых дзяцей, і жаданне паспрабаваць сябе ў справе, і імкненне да незалежнасці, у тым ліку і эканамічнай. І сапраўды: хіба праца не дае магчымасці рэалізаваць свае здольнасці, і — што таксама немалаважна — свае мары, няхай і самыя зямныя...

*Матэрыялы на гэтую тэму чытайце на 2-й старонцы "НГ".*

# Журавель паляціць на Брэстчыну

***Здаецца, зусім нядаўна ўсё толькі пачыналася. І ўсе мы, хто сачыў за ходам Рэспубліканскага конкурсу "Крыштальны журавель-2001", з цікавасцю знаёміліся з галоўнымі дзеючымі асобамі гэтага дзейства на іх самапрадстаўленні ў час адкрыцця фіналу конкурсу, які адбыўся 17 красавіка ў Мінскім палацы дзяцей і моладзі. Тады мы бачылі іх упершыню, а сёння ўжо ведаем у твар, і яны для нас сталі такімі блізкімі і дарагімі, гэтыя дваццаць дзве зорачкі, якія нечакана зазіхацелі на небасхіле нацыянальнай адукацыі. Прабеглі красавік, май і першы месяц лета. Такім далёкім здаваўся тады гэты чэрвеньскі дзень — дваццаць восьмага, — на які быў запланаваны суперфінал.***

***Сёння мы ўжо ведаем, як ён праходзіў і праз якія выпрабаванні разам з калегамі ішоў да сваёй перамогі малады таленавіты настаўнік новага пакалення, выкладчык геаграфіі Ланской сярэдняй школы Маларыцкага раёна Вадзім Шпетны. У шасцёрцы суперфіналістаў разам з ім спаборнічалі настаўнік гісторыі сярэдняй школы № 2 Слоніма Алег Леанідавіч Леановіч, настаўнік-дэфектолаг Кадзінскай школы Магілёўскай вобласці Вольга Іванаўна Лугоўская, настаўніца сярэдняй школы № 10 Гомеля Алена Аляксандраўна Падрубная, настаўнік матэматыкі політэхнічнай гімназіі № 6 Мінска Дзмітрый Мікалаевіч Чарапко і настаўніца геаграфіі беларускай гімназіі Маладзечна Галіна Пятроўна Дрокіна.***

Суперфінал праходзіў у сціплай зале Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, а не ў шыкоўнай — ліцэя БДУ, як задумвалася і планавалася. Аднак справе гэта, на мой погляд, не пашкодзіла. Хутчэй, наадварот: меней афіцыёзу і пампезнасці, лягчэй і камфортней працавалася конкурсантам. Цёплая і добразычлівая атмасфера ў зале нагадвала хатнюю. На тварах суперфіналістаў, якія спакойна і ўпэўнена працавалі, хваляванне амаль не прачытвалася. Зладжана таксама працавалі журы і арганізацыйны камітэт. Удалымі жартамі і цёплымі словамі падахвочвалі суперфіналістаў, стваралі "сітуацыю поспеху" нязменныя і абаяльныя вядучыя Святаслаў Генадзьевіч Крупенька і Карына Аскераўна Адзінец.

— Сёння нехта з вас у гэтай сціплай зале ўзляціць да зорных вяршынь, — сказаў Святаслаў Генадзьевіч. — Канечне, не ўсім пашчасціць! Значыць гэта быў проста не ваш дзень! Але помніце, усе вы — дваццаць два ўдзельнікі нашага конкурсу — дастойныя перамогі!

Нагадаю, што на суперфінал былі запрошаны ўсе дваццаць два фіналісты конкурсу. Іх прыйшлі павітаць, павіншаваць з адкрыццём суперфіналу і пажадаць ўдачы міністр адукацыі Васіль Іванавіч Стражаў і намеснік міністра Генадзь Дзям'янавіч Дылян.

— Я хацеў бы падкрэсліць, што праз фіналістаў нашага конкурсу, — сказаў Васіль Іванавіч, — мы фактычна выказваем сваю вялікую падзяку і глыбокую павагу да настаўніцкай працы, да ўсіх настаўнікаў. Таму што наша сістэма адукацыі, наша школа была, ёсць і будзе стаяць на падмурку сярэдняй школы, абапіраючыся на наша настаўніцтва. Толькі дзякуючы настаўніку мы сёння захавалі нашу школу на тым узроўні, на якім яна знаходзіцца. На другім з'ездзе настаўнікаў, які адбудзецца 2-3 лістапада, мы зноў вернемся да вынікаў конкурсу, зноў будзем мець магчымасць павіншаваць не толькі суперфіналістаў, але і ўсіх удзельнікаў конкурсу, каб падзякаваць і выказаць ім павагу за працу.

* * *

У суперфінале кожнаму з прэтэндэнтаў на галоўны прыз патрэбна было на працягу аднаго дня прыняць удзел у брэйн-рынгу і конкурсе-сюрпрызе, правесці міні-ўрок на сцэне і абараніць свой, падрыхтаваны ўжо адукацыйны праект "У новы век з новымі..." Максімальная колькасць балаў — шэсцьдзесят.

Але спачатку суперфіналістам была прапанавана лёгкая і цікавая размінка, своеасаблівая праверка на знаходлівасць і ўменне "сабрацца", сканцэнтравацца. Вядучы называе

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## *Падлетак у горадзе: летняе працаўладкаванне*




# Скажы працы "так"

На працягу дзевяці гадоў займаецца працаўладкаваннем юнакоў і дзяўчат Маладзёжная сацыяльная служба (МСС) Мінска.

Звярнуцца сюды можа любы жадаючы: ад старшакласніка — да студэнта ВНУ (як паказвае практыка, часцей за ўсё прыходзяць студэнты не "мінскага паходжання", якія жывуць у інтэрнатах, і прычыны іх жадання папрацаваць у вольны час вельмі нават зразумелыя). Усе фармальнасці зведзены да мінімуму: для таго каб уладкавацца на працу, трэба запоўніць анкету і прыкласці да яе даведку з месца вучобы, пашпарт альбо заяву ад бацькоў (у тым выпадку, калі юнаку ці дзяўчыне яшчэ няма 18 год) і фотаздымак. Гэта — усё. Але папярэдне, канешне, падлетку трэба зрабіць свой выбар на карысць таго ці іншага накірунку працы. Спіс прапануемых месцаў, дзе можна прыкласці свае сілы, не такі ўжо і малы.

Гэта, па-першае, студэнцкае бюро паслуг, якое прапаноўвае насельніцтву выкананне разавых паслуг. "Студэнцкае" — гэта проста назва, на самай справе працаваць у ім можы любы падлетак, якому ўжо споўнілася 14 год. Кожны жадаючы папоўніць свой бюджэт малады чалавек зможа знайсці тут працу па сілах: ад прыбірання кватэр, выканання падсобных работ, пагрузкі-разгрузкі, праполкі градаў і іншых сельскагаспадарчай працы — да рэпетытарства, перакладу ці набору тэкстаў на камп'ютэры і інш.

Ужо два гады ў рамках маладзёжнай сацыяльнай службы працуе атэлье з паэтычнай назвай "Сунічнае акенца", якое займаецца пашывам прадметаў для інтэр'ера. Працаўладкоўваюцца сюды маладыя дзяўчаты, якія стаялі на ўліку ў службе занятасці насельніцтва і па прапанове Маладзёжнай сацыяльнай службы прайшлі адпаведнае навучанне. Пра якасць іх работы сведчыць кола заказчыкаў, сярод якіх, напрыклад, — Пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі.

Маладзёжнае турыстычнае бюро "Рабінзон" арганізуе адпачынак для школьнікаў у экалагічна чыстых раёнах Крыма. А ў якасці выхавальнікаў і важатых туды едуць студэнты рэспубліканскіх педагагічных ВНУ, якія, такім чынам, атрымліваюць магчымасць і папрацаваць, і атрымаць грошы, і прайсці летнюю практыку, і адначасова ўмацаваць сваё ўласнае здароўе.

1 верасня гэтага года Маладзёжная сацыяльная служба плануе адкрыць маладзёжнае прадпрыемства "Маяк" (па вул.Чапаева, 3), дзе на пастаянную працу змогуць уладкавацца дзвесце чалавек. Стварэнне таксама двухсот, але ўжо часовых рабочых месцаў для моладзі прадугледжвае і новая праграма службы "Сонцазварот". У планах МСС таксама — адкрыццё рэспубліканскага наркалагічнага рэабілітацыйнага цэнтра для наркаманаў, што адначасова дасць магчымасць стварыць для моладзі 21 пастаяннае і каля 120 часовых рабочых месцаў.

Студэнты універсітэта культуры могуць папрацаваць у складзе культурных брыгад у святочныя (асабліва ў навагоднія) дні — стаць хоць на некалькі гадзін Дзедам Марозам ці Снягурачкай, добрым чараўніком на дзіцячым ранішніку... І амаль любы малады чалавек, які яшчэ не паспеў набыць якую-небудзь прафесію, можа зарабіць сабе крыху грошай, заняўшыся продажам кветак перад святамі (асабліва перад 8 Сакавіка). Так што звярнуцца ў маладзёжную сацыяльную службу ёсць рэзон. Ініцыятыў і новых ідэй тут з'яўляецца шмат, і кожны, нават самы пераборлівы малады чалавек, знойдзе тут менавіта тое, што і шукаў — адпаведны сваім схільнасцям спосаб зарабіць грошы.

**Святлана СУБОЦІНА.**

# Сталеем, набываем вопыт

Ці добра тое, што нашы дзеці падчас летніх канікулаў замест адпачынку працуюць і зарабляюць грошы? Хоць справа гэта ўжо не новая, спрэчкі вакол яе існуюць і сёння. І вось каб адказаць на гэта пытанне, я зазірнуў у Мінскі батанічны сад.

Сёлета кожны з трох летніх месяцаў тут будуць працаваць па шэсцьдзесят падлеткаў ад чатырнаццаці да шаснаццаці год, якім пашчасціла пераадолець конкурс (сапраўдны конкурс — больш як шэсць чалавек на месца) і атрымаць такую магчымасць. На арганізацыю другаснай занятасці вучнёўскай моладзі, як паведаміў Вячаслаў Нікіфаравіч Тарэеў, які адказвае за гэтую справу вось ужо пяты год, Мінскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва выдзеліў сем з паловай мільёнаў рублёў. Гэта значыць, што кожны, хто адпрацуе поўны месяц, атрымае прыкладна трыццаць тысяч рублёў. Грошы не надта вялікія, але ж зробленыя самастойна, і зразумела, лішнімі не будуць.

Часовым працаўладкаваннем вучняў у батанічным садзе займаюцца ўжо з 1998 года. Раней гэта былі вучні са 124-й школы Першамайскага раёна і навучэнцы ПТВ № 114. У гэтым годзе тут працуе моладзь з розных школ Мінска. Іхняй працай супрацоўнікі сада вельмі задаволены: вучні старанныя, працавітыя. Яны пераважна займаюцца праполкай і перасадкай раслін, паліваюць іх, калі ў гэтым ёсць патрэба. Маецца яшчэ брыгада, якая дапамагае назапашваць на зіму сена для коней.

Дык вось, вяртаючыся да пытання, добра ці дрэнна, што нашыя дзеці працуюць падчас летніх канікулаў, скажу так: добра. Гэта неабходна ў першую чаргу самім дзецям, праца дапамагае ім сталець, выявіць свае магчымасці і інтарэсы.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКАХ: задаволены працай Любы Патрушавай супрацоўнікі батанічнага саду (1-я стар.); куратар калекцыі Галіна Сяргееўна Бародзіч са сваімі юнымі памочнікамі; Ніна Сідарава, Аксана Рашубкіна і Аня Ігнатоўская вучацца ў розных школах, а працуюць побач.

**Фота аўтара.**



# Матэрыялізаваная мара

— Ну што, Іван, зарабіў грошы? — з такім пытаннем (нечаканым для мяне) звярнуўся да майго сына-падлетка малады прадавец музычнай апаратуры.

— Так, зарабіў. Пакажыце нам, калі ласка, вось той Panasonic, — адказаў ён і кінуў прагны позірк на бліскучы, сучаснага дызайну, шыкоўны магнітафон. Прадавец усміхнуўся яму, як добраму знаёмаму і хуценька паставіў перад намі музычны апарат. Нарэшце, збылося! Я бачыла, як хвалюецца сын, дастаючы з кішэні вялікі пачак грошай, як годна кладзе іх на прылавак, нават не пералічваючы (а навошта, я ўжо ведала цану гэтага музычнага "цуда" і прадбачліва адлічыла на яго пакупку неабходную суму). Вочы майго Івана свяціліся радасцю, калі ён назіраў, як спрытна ўпакоўваецца Panasonic у прыгожую замежную скрынку. І было ад чаго, гэта ж першая рэч, якую ён купіў за асабістыя, заробленыя грошы!

А пачыналася ўсё прыкладна так. Амаль што з першых дзён летніх канікулаў сын стаў надакучаць мне пытаннем, дзе можна папрацаваць, каб зарабіць грошы.

— Навошта? — папыталася я. Іван загадкава ўсміхнуўся.

— Ёсць у мяне мара набыць адну рэч, а вось якую — не скажу, бо тады нічога не атрымаецца.

Пачуўшы па радыё аб'яву Маладзёжнай сацыяльнай службы, я падказала сыну звярнуцца туды. Працу яму і яго сябру прапанавалі вельмі простую — расклейваць рэкламныя аб'явы. Праўда, за невялікую плату.

Абяцалі з цягам часу (калі добра сябе зарэкамендуюць) іншую работу з большым заробкам.

Я была задаволена: куды падзелася ягоная лянота! Кожную раніцу сын самастойна ўставаў і хуценька, каб не спазніцца, ішоў на "службу".

І вось нарэшце яму з сябрам прапанавалі зрабіць генеральную уборку трохпакаёвай кватэры ў мікрараёне "Вяснянка".

Чысцюткую кватэру "прымаў" сам гаспадар і за сумленную працу заплаціў хлапчукам першыя для іх прыстойныя грошы. Настрой у сына адразу палепшыўся, але для здзяйснення запаветнай мары (ён хутка падлічыў) трэба было кожны дзень на працягу месяца прыбіраць па такой кватэры...

Аднак такую работу больш не прапаноўвалі. Падлеткі штодзень з самай раніцы званілі ў Маладзёжную сацыяльную службу, задаючы адно і тое ж пытанне: "Ці ёсць якая небудзь справа для нас?"

Неўзабаве прапанова паступіла: дачнік (вайсковец у адстаўцы) запатрабаваў на лецішчы пафарбаваць жалезную агароджу ў чорны колер.

Агароджа была непамерна вялікая для таго, каб пафарбаваць яе за адзін працоўны дзень. Праз некалькі гадзін красоўкі і джынсы хлапчукоў памяняліся ў колеры...

Падлеткі хутка стаміліся, працуючы пад спякотным сонцам. А яшчэ ім захацелася есці. Гаспадар жа на гэта не зважаў, і агароджа пачала дваіцца у вачах хлапчукоў...

У рэшце рэшт яны адмовіліся ад такой працы, спасылаючыся на стомленасць і немагчымасць давесці яе да канца. Гаспадар раззлаваўся і, заплаціўшы падлеткам мізэрныя грошы, адпусціў іх. Стомленыя, перапэцканыя з ног і амаль што да галавы ў фарбу, пешшу, праз вялізнае поле, крочылі горамаляры на прыгарадную электрычку...

Ізноў здзяйсненне запаветнай мары майго сына сталася праблемным.

Але, кажуць, калі вельмі доўга думаеш пра што-небудзь, то абавязкова нешта дапамагае адбыцца задуманаму...

Мастакі, што працавалі ў нашай газеце па дагаворы, прапанавалі жадаючым зрабіць для іх тэрміновую справу: укамплектаваць выкананыя па іх малюнках дыяпазітывы навучальных фільмаў у спецыяльныя скрынкі. Працу гэту трэба было рабіць у вольны ад асноўнай дзейнасці час і за адпаведную плату.

І пацягнуліся ў рэдакцыю дзеці нашых супрацоўнікаў: не часта выпадае так проста, за кароткі тэрмін зарабіць грошы. Прычын, калі пастарацца, то і даволі прыстойныя.

Працоўны энтузіязм літаральна апанаваў майго сына. Высветліўшы кошт "зборкі" адной скрынкі, ён падлічыў, колькі трэба іх скамплектаваць, каб зарабіць неабходную яму суму грошай.

Кожны дзень амаль за дзве гадзіны да пачатку працы рэдакцыі ён быў ужо на сваім рабочым месцы. Калі я прыходзіла, ён рабіў мне справаздачу: столькі скрынак ужо скамплектавана. Яго кваліфікацыя ў працэсе работы павышалася з дня ў дзень.

Я са здзіўленнем стала адзначаць такія рысы ў характары майго сына, як арганізаванасць, працавітасць, мэтанакіраванасць і ўпартасць. Было прыемна, што гэта адзначылі і мае калегі. Але ж яны нават і не здагадваліся пра матывацыю, якая кіравала яго дзеяннямі.

Безумоўна, мне прыйшлося па магчымасці яму дапамагаць, таму што, як кажуць, гульня была вартая свечак. Аднак галоўны аб'ём работы выканаў ён сам і ў рэшце рэшт дасягнуў пастаўленай мэты.

Мне падаецца, што гэты першы вопыт самастойнай працы ў нейкім сэнсе паўплываў на майго сына, на станаўленне яго характару і ацэнку сваіх магчымасцей.

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

# "Хачу зарабіць грошы"

Гэтую фразу можна пачуць ад падлеткаў усё часцей і часцей. Прычынай таму — і складаны ў матэрыяльных адносінах час, і прагматычнасць нашых дзяцей, і жаданне паспрабаваць сябе ў справе, і імкненне да незалежнасці, у тым ліку і эканамічнай. І сапраўды: хіба праца не дае магчымасці рэалізаваць і свае здольнасці, і — што таксама немалаважна — свае мары, няхай і самыя зямныя: купіць новую спадніцу, звадзіць сваю дзяўчыну на канцэрт яе любімага спевака, парадаваць маці падарункам на дзень яе нараджэння? Той факт, што на Захадзе летам працуюць нават дзеці мільянераў, — агульнавядомы. Відаць, прага незалежнасці і жаданне паспрабаваць сябе ў новай ролі — гэта тое, што аб'ядноўвае падлеткаў усяго свету. Праўда, магчымасці рэалізаваць гэтыя памкненні бываюць рознымі. Давайце пабудзем крыху аптымістамі. Паспрабуем хоць на некалькі хвілін уявіць сабе той спектр магчымасцей, што гатовы разгарнуцца перад маладым чалавекам нібы калода карт у руках спрытнай цыганкі. Пры ўмове, канешне, што юнак ці дзяўчына не сядзяць склаўшы рукі, а актыўна шукаюць магчымасць папрацаваць.

Такім чынам...

Калі ў юнака ці дзяўчыны маюцца творчыя здольнасці і жаданне "зарабіць пяром" (як казаў В.Гюго), яны могуць паспрабаваць сябе ў журналістыцы ў якасці пазаштатнага аўтара. Многія выданні, асабліва маладзёжныя, ахвотна супрацоўнічаюць з цікавымі, кантактнымі і лёгкімі на пад'ём маладымі людзьмі.

Калі падлетак вучыцца на "троечку" і асаблівымі інтэлектуальнымі інтарэсамі не вылучаецца, але не цураецца фізічнай працы, ён можа ёю і заняцца. Напрыклад, аказаннем побытавых паслуг насельніцтву. Да слова, гэтым часта зарабляюць і студэнты-выдатнікі. Сын аднаго майго знаёмага разам з аднакурснікамі арганізаваў невялікую фірму, якая займаецца ўстаноўкай пластыкавых столяў. Канешне, для гэтага патрэбна быць ініцыятыўным, актыўным, гатовым да пэўных складанасцей. Затое 19-гадовы юнак цяпер ездзіць на сваёй машыне...

Кантактныя, ветлівыя, добразычлівыя падлеткі могуць стаць кансультантамі на выстаўцы ці ў магазіне, што прапаноўваюць людзям паспрабаваць навінкі якой-небудзь фірмы. У матэрыяльным сэнсе пакрыўджанымі яны не застануцца.

Мне могуць запярэчыць, што такіх вакансій і, адпаведна, шанцаў на працу ў нас пакуль што няшмат. Што ж, давайце тады накіруем свой позірк на нешта больш рэальнае. Напрыклад, у горадзе звычайна бываюць вельмі запатрабаванымі кур'еры альбо расклейшчыкі аб'яў. Той, хто добра ведае замежную мову, можа прапанаваць сябе ў якасці перакладчыка. Ведаю, што ў Мінску знайсці сабе такую працу — не праблема. Нарэшце, студэнты педкаледжаў ці ВНУ могуць паехаць працаваць у летнік важатымі ці выхавацелямі....

Як бачна, магчымасці знайсці сабе цікавую працу ёсць. Галоўнае, бадай, што патрабуецца ад падлетка, — быць актыўным і ўпартым у яе пошуку (дарэчы, і сам пошук працы можа стаць для яго цікавым і карысным заняткам і набыццём пэўнага жыццёвага вопыту). Але, на жаль, праблем таксама бракуе. І адна з асноўных заключаецца, магчыма, у саміх дзецях, а дакладней, у іх юнацкім максімалізме. Працаваць за капейкі нашы падлеткі не вельмі хочуць. Між тым і належнай кваліфікацыі, якая б дала ім права патрабаваць годнай аплаты сваёй працы, яны таксама не маюць. І ўсё ж часам бывае вельмі цяжка растлумачыць гэта падлетку, калі ён бачыць, што яго сябар, які займаецца нейкай ценявой дзейнасцю на рынку (напрыклад, той жа Камароўцы ў Мінску), атрымлівае да дзесяці долараў у дзень... Відаць, найлепшым выйсцем усё ж магло б быць падтрымаць жаданне падлетка папрацаваць, але пры гэтым, маючы на ўліку ўсе рэаліі сённяшняга жыцця, паспрабаваць паказаць яму, акрамя заробку, і іншыя плюсы яго працаўладкавання. А яны заўсёды ёсць — гэта відавочна. І магчымасць пашырэння кругагляду, і набыццё рэальнага жыццёвага вопыту (што ні за якія грошы не купіш!), і новыя сябры, і шанц пэўнай самарэалізацыі...

Дарэчы, падлетак, які імкнецца папрацаваць у вольны час, заўсёды зыходзіць са станоўчых намераў: зарабіць, набыць, пазнаёміцца, паспрабаваць... І нам, дарослым, не менш важна таксама пры гэтым мець на ўвазе перш за ўсё станоўчую матывацыю, а не зыходзіць з адмоўнага (каб падлетак не бадзяўся без справы, каб не здзейсніў правапарушэння, застаўшыся безнаглядным, каб не трапіў у дрэнную кампанію і г.д.). Тады нам прасцей будзе знайсці агульную мову з дзецьмі.

**Святлана СУБОЦІНА.**

Нашы кансультацыі

# Заканадаўства аб працы моладзі

Дзеючым працоўным заканадаўствам устаноўлена забарона прымаць на працу асоб маладзей за 16 гадоў. Аднак маецца выключэнне з агульнага правіла: дапускаецца магчымасць заключэння працоўнага дагавора з падлеткам, якому споўнілася 14 гадоў. Пры гэтым пытанне аб прыёме на работу павінна быць узгоднена з адным з бацькоў ці асобай, якая замяняе яго (згода павінна быць дадзена ў пісьмовай форме). Прапануемая работа не павінна наносіць шкоду здароўю, перашкаджаць наведванню агульнаадукацыйнай школы павінна быць лёгкай. Забеспячэнне працоўнай занятасці студэнтаў і вучняў у вольны ад вучобы час здзяйсняецца цэнтрамі працоўнай занятасці па месцы жыхарства, маладзёжнымі грамадскімі аб'яднаннямі, аддзеламі (упраўленнямі) выхаваўчай работы з моладдзю вышэйшых і сярэдніх спецыяльных вучэбных устаноў.

Пераважным правам на часовую занятасць карыстаюцца сіроты, маладыя людзі з сем'яў беспрацоўных, няпоўных, шматдзетных і праблемных сем'яў, а таксама тыя, хто стаіць на ўліку ў камісіях па справах непаўналетніх, вызваленыя з выхаваўча-працоўных калоній альбо якія закончылі спецыяльныя вучэбна-выхаваўчыя ўстановы ці вучацца ў зменных агульнаадукацыйных школах.

Пры прыёме на работу асобам, якія не дасягнулі 18 гадоў, папярэднія выпрабаванні не ўстанаўліваюцца.

Асобы маладзей за 18 гадоў не могуць быць прынятымі на работу са шкоднымі альбо небяспечнымі ўмовамі працы, спіс якіх зацверджаны Міністэрствам працы Рэспублікі Беларусь. Выкарыстанне асоб, якія не дасягнулі 18 гадоў, на работах, прадугледжаных гэтым спісам, забараняецца ўсім наймальнікам незалежна ад форм уласнасці і відаў дзейнасці. Пры праходжанні вытворчай практыкі (вытворчага навучання) асобы, якія не дасягнулі 18 гадоў і навучаюцца ў агульнаадукацыйных, прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных вучэбных установах, могуць знаходзіцца на работах не больш як чатыры гадзіны ў дзень.

У ч.6 арт. 274 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь устаноўлена забарона на падняцце і перасоўванне асобамі, якія не дасягнулі 18 гадоў, цяжару ўручную звыш устаноўленых для іх абмежавальных норм (юнакі 16-18 гадоў — 16,4 кг, дзяўчаты — 10,25 кг). У вагу падымаемага і перасоўваемага цяжару ўключаецца вага тары і ўпакоўкі. Адлегласць, на якую перасоўваецца цяжар уручную, не павінен перавышаць 5 м, вышыня падняцця цяжару з падлогі абмяжоўваецца 1 м, а з рабочай паверхні (стол і інш.) — 0.5 м.

Забараняецца прыцягваць работнікаў маладзей за 18 гадоў да начных і звышурочных работ, працы ў дзяржаўныя святы і святочныя дні, у выхадныя дні.

Ранішняя змена асоб, якія не дасягнулі 18 гадоў, не можа пачынацца раней, чым у 6 гадзін, а вячэрняя — заканчвацца пазней за 22 гадзіны, паколькі начным лічыцца час з 22 гадзін да 6 гадзін.

Усе асобы маладзей за 18 гадоў прымаюцца на работу толькі пасля папярэдняга медыцынскага агляду і ў далейшым, да дасягнення 18 гадоў, кожны год падлягаюць абавязковаму медыцынскаму агляду. Абавязковыя штогадовыя медыцынскія агляды непаўналетніх работнікаў праводзяцца ў рабочы час з захаваннем сярэдняга заробку.

Непаўналетні не павінен прымацца на работу (пры наяўнасці медыцынскага заключэння), калі ў яго ёсць супрацьпаказанні па стане здароўя.

Для работнікаў маладзей за 18 гадоў устанаўліваецца скарочаная працягласць рабочага часу: ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў — не больш за 23 гадзіны ў тыдзень, ад 16 да 18 — не больш як 35 гадзін у тыдзень. Працягласць рабочага часу вучняў агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, якія працуюць на працягу года ў вольны ад вучобы час, не можа перавышаць палавіны максімальнай працягласці рабочага часу, прадугледжанай для асоб адпаведнага ўзросту.

Працягласць штодзённай работы (змены) не можа перавышаць: для работнікаў ва ўзросце ад 14 да 16 гадоў — 4 гадзіны 36 хвілін, ад 16 да 18 — 7 гадзін, для вучняў агульнаадукацыйных школ, прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў, якія працуюць на працягу навучальнага года ў вольны ад вучобы час, ва ўзросце ад 14 да 16 гадоў — 2 гадзіны 18 хвілін, ад 16 да 18 гадоў — 3 гадзіны 30 хвілін.

Непаўналетнім як асобай сацыяльнай групе працоўных па агульным правіле працоўны адпачынак прадастаўляецца ў летні час. У другую пару года адпачынак ім можа прадастаўляцца толькі па іх жаданні. Працягласць асноўнага адпачынку работнікам маладзей за 18 гадоў, у тым ліку прынятым на час праходжання вытворчага навучання, устанаўліваецца ў 30 каляндарных дзён. Па жаданні непаўналетніх работнікаў наймальнік абавязаны прадаставіць ім адпачынак да сканчэння шасці месяцаў работы.

Для работнікаў маладзей за 18 гадоў нормы выпрацоўкі ўстанаўліваюцца зыходзячы з норм выпрацоўкі для дарослых работнікаў прапарцыянальна скарочанай працягласці рабочага часу, прадугледжанага для дадзенай катэгорыі работнікаў.

Заработная плата работнікаў маладзей за 18 гадоў пры скарочанай працягласці штодзённай работы выплачваецца ў такім жа памеры, як работнікам адпаведных катэгорый пры поўнай працягласці працоўнага дня.

Мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі арганізацыям можа ўстанаўлівацца броня прыёму на работу і прафесійнае навучанне на вытворчасці для асоб маладзей за 18 гадоў, уключаючы тых, хто закончыў агульнаадукацыйныя школы.

Пры скасаванні працоўнага дагавора па ініцыятыве наймальніка дзяржава ўстанаўлівае дадатковыя гарантыі моладзі. Так, звальненне ў сувязі з ліквідацыяй установы, скарачэннем колькасці работнікаў, неадпаведнасцю займаемай пасадзе ці выконваемай рабоце з прычыны недастатковай кваліфікацыі альбо па стане здароўя, няяўкі на работу на працягу чатырох месяцаў запар, з-за часовай непрацаздольнасці, калі не ўстаноўлены больш працяглы тэрмін захавання працоўнага месца пры пэўных захворваннях, ажыццяўляецца толькі са згоды камісіі па справам непаўналетніх.

Непаўналетнія могуць быць прыняты на часовую работу. Часовымі прызнаюцца работнікі, якія прыняты на тэрмін да 2 месяцаў, альбо для замяшчэння работніка, які адсутнічае — да 4 месяцаў. Па ініцыятыве адміністрацыі яны могуць быць звольнены, акрамя агульных падстаў, і па дадатковых прычынах:

— прыпыненне работы прадпрыемства на тэрмін больш як адзін тыдзень па прычыне вытворчага характару;

— няяўка на работу на працягу больш як двух тыдняў запар па прычыне часовай непрацаздольнасці.

Па асабістым жаданні такія работнікі могуць звольніцца, пісьмова папярэдзіўшы аб гэтым адміністрацыю за тры дні.

**Надзея БУКАТАЯ,**
**юрыдычны кансультант Цэнтра сацыяльнай падтрымкі жанчын.**

# Прыступка ў дарослае жыццё

На працягу шэрага гадоў Беларусь перажывае эканамічны крызіс. Стаяньці не працуюць на поўную магутнасць многія прадпрыемствы краіны, на якіх заняты тысячы работнікаў. Моладзь як адзін з сацыяльна неабароненых слаёў насельніцтва найбольш пакутуе ад наступстваў эканамічных пераўладкаванняў.

Адным з рэальных крокаў хаця б часткова выйсця з гэтай сітуацыі з'явілася стварэнне Мінскай гарадской праграмы па арганізацыі часовай працоўнай занятасці студэнцкай і вучнёўскай моладзі ў вольны ад вучобы час у сферы гарадской гаспадаркі, якая дзейнічае з 1999 года.

Асноўнай задачай праграмы з'яўляецца прыцягненне вучнёўскай моладзі да працы, атрыманне імі прафесійных навыкаў, падрыхтоўка іх да самастойнага выхаду на рынак працы. Кожны год у рамках гэтай праграмы часовую працу атрымліваюць больш як 2000 юнакоў і дзяўчат Заводскага раёна Мінска, якія працуюць у рамонтных брыгадах на базе школ, ЖЭСах, у брыгадах па ўборцы і добраўпарадкаванні паркаў і зялёных зон у "Зелянбудзе", наглядаюць за жывёлай у заапарку, працуюць санітарамі ў бальніцах.

Як і ў любой іншай новай справе, арганізатарам праграмы часта прыходзіцца сутыкацца з вялікай колькасцю праблем. Гэта і недасканаласць нарматыўнай базы ў галіне арганізацыі працы непаўналетніх, і несвоечасовае бюджэтнае фінансаванне, і неадпрацаваны механізм падаткаабкладання прадпрыемстваў — арганізатараў занятасці моладзі, і вельмі нізкі ўзровень заработнай платы. Усё гэта прыводзіць да незацікаўленасці моладзі ў выніках працы, часта да расчаравання.

Праграма занятасці студэнцкай і вучнёўскай моладзі робіць яшчэ толькі першыя крокі. Аднак прыемна бачыць, што самастойны заробак грошай падлеткамі становіцца нормай. Маладыя людзі рыхтуюцца ўвайсці ў новае — дарослае жыццё, і наша задача — дапамагчы ім.

**Ала КУРЫЛЬЧЫК,**
**начальнік аддзела па справах моладзі адміністрацыі Заводскага раёна Мінска.**

# Куды звяртацца падлетку

Перш за ўсё — у сваю школу, да сацыяльнага педагога альбо класнага кіраўніка. Акрамя таго, у кожным раённым аддзеле адукацыі ёсць аддзелы, якія курыруюць пытанні стварэння брыгад другаснай занятасці. Старшакласнікі ў складзе такіх брыгад працуюць у бальніцах, зелянгасе, займаюцца рамонтам мэблі ў школах, сталярнымі і швачнымі работамі.

**Мінск**

**Кантактныя тэлефоны раённых аддзелаў адукацыі:**

Заводскі раён — 246-32-70, 246-14-59

Ленінскі раён — 221-80-71, 221-44-71

Маскоўскі раён — 270-27-93, 271-04-61

Кастрычніцкі раён — 224-47-76, 224-39-66

Партызанскі раён — 236-01-23, 235-13-33

Першамайскі раён — 266-63-65, 263-36-59

Савецкі раён — 268-47-83, 239-00-13

Фрунзенскі раён — 254-71-44, 253-30-73

Цэнтральны раён — 234-11-45, 234-13-08

**Маладзёжная сацыяльная служба**

вул.Казлова, 7, т.284-45-42

**Аддзел "Юніёрагенцтва" падлеткавай біржы занятасці "Золак"** (толькі Заводскі раён)

пр-т.Партызанскі, 36; 246-32-70

**Мінскі гарадскі цэнтр занятасці моладзі грамадскага аб'яднання БПСМ**

вул.Кісялёва, 24; 284-77-83

**Маладзёжны цэнтр аддзялення занятасці Фрунзенскага раёна**

вул.Мельнікайтэ, 3; 226-78-79

**Адрасы раённых аддзяленняў Мінскага гарадскога цэнтра занятасці насельніцтва:**

Ленінскае — вул.Свярдлова, 19

Маскоўскае — пр-т.Дзяржынскага, 10

Кастрычніцкае — вул.Брылеўская, 3

Партызанскае — вул.Фролікава, 19

Першамайскае — пр-т.Скарыны, 113

Савецкае — вул.Я.Коласа, 69

Фрунзенскае — вул.Мельнікайтэ, 3

Цэнтральнае — вул.Красная, 5

Заводскае — вул.Алтайская, 64, к.1.

**Брэст**

Брэсцкі гарадскі цэнтр занятасці — 23-76-21

**Віцебск**

Віцебскі гарадскі цэнтр занятасці (аддзел працаўладкавання моладзі) — 37-44-22

**Гомель**

Гомельскі гарадскі цэнтр занятасці — 53-56-86

**Гродна**

Гродзенскі гарадскі цэнтр занятасці — 44-95-71

**Магілёў**

Магілёўскі гарадскі цэнтр занятасці — 22-16-65

**Падрыхтавалі**
**Святлана СУБОЦІНА,**
**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

6 ліпеня — 150 гадоў з дня нараджэння Янкі Лучыны

# Прадвеснік адраджэння

*Заўтра юбілей Янкі Лучыны — Івана Люцыянавіча Неслухоўскага.*

*Чалавека, біяграфія якога ўкладваецца ўсяго ў некалькі радкоў: "Нарадзіўшыся 24 чэрвеня 1851 года (па старым стылі. — **М.Ч.**) у Мінску губернскім у сям'і Люцыяна і Антаніны з Лукашэвічаў (Неслухоўскіх), пасля заканчэння Мінскай гіназіі паступіў ён у Пецярбургскі універсітэт на матэматычны факультэт, адкуль неўзабаве перайшоў у тэхналагічны інстытут, які скончыў у 1877 годзе, у дваццацішасцігадовым узросце. Пазней, атрымаўшы пасаду на Каўказе, прабыў там два гады, пасля чаго, знаходзячыся ў Мінску, захварэў паралічам ног. Нягледзячы на гэта паступіў на службу ў мясцовае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, дзе і працаваў да канца жыцця" ("Kraj", 1897).*

*Паэта, літаратурная спадчына якога на беларускай мове (а куды ж болей засталося на польскай ды рускай!) абмяжоўваецца "ўсяго толькі дзюжынай вершаў" (Максім Багдановіч).*

*І тым не менш для нас, беларусаў, і Паэта, і Чалавека — Вялікага. Бо знакавага. Бо таго, хто сказаў аднойчы:*

*Не я пяю — народ Божы*
*Даў мне ў песні лад прыгожы,*
*Бо на сэрцы маю путы*
*І з народам імі скуты.*

*Бо таго, без каго б не ведалі, пра "што думае Янка, везучы дровы ў горад"... Бо таго, без каго, магчыма, не мелі б і "Новае зямлі" Якуба Коласа...*

*Знакавасць Лучыны — ва ўсім, пачынаючы ад ягонага псеўданіма і заканчваючы тым, як прыйшоў ён да беларускага паэтычнага слова — пачуўшы ў 1887 годзе выступленне ўкраінскіх (!) артыстаў і асмеліўшыся вітаць іх на роднай мове:*

*Братцы, сястрыцы! — праўды нясыта*
*Маці-Зямліца! Ой! не забыта*
*Роднага слова святая сіла!..*

*Сёння, напярэдадні 150-гадовага юбілею паэта, поруч з яго "польскімі" вершамі ў перакладзе Яўгена Міклашэўскага прапануем увазе чытачоў караценькі артыкул пра яго Максіма Багдановіча. Артыкул, які пісаў Максім недзе ў 1910 ці 1911 годзе, відавочна прымяркоўваючы яго да 60-гадовага юбілею паэта...*

**Мікола ЧЭМЕР.**

## *Максім Багдановіч* "І.НЕСЛУХОЎСКІ"

***Малую літаратурную спадчыну пакінуў нам І.Неслухоўскі — усяго толькі дзюжыну вершаў... Але прычыну гэтага трэба шукаць не ў бясплоднасці таленту песняра, а ў агульным характары таго часу, на каторы прыпадае яго пісьменніцкая праца. На вялікі жаль, гэта былі нудныя 80-я і 90-я гады, калі ўсякая жывая справа зараз жа і зацісківалася, калі грамадзянская думка крэпка спала, калі ўсё жыццё пашарэла і прынікла. Не трэба і казаць, што ніякага колькі-небудзь прыкметнага беларускага руху тады і ў паміне не было, бо нацыянальная свядомасць не магла развіцца ў народзе без помачы ўласнай інтэлігенцыі, а яна толькі што яшчэ пачынала адслайвацца. Праўда, на вялікім абшары нашага краю патроху з'яўляліся людзі, так ці сяк дарабіўшыся да нацыянальнага самапачуцця, а разам з тым ужо пачала аджываць і замёршая лет на 15 беларуская пісьменнасць... Пры гэткіх умовах пісьменніцкая праца не магла быць колькі-небудзь напружанай, што і адбілася на малым ліку твораў Неслухоўскага. Так і здаецца, што пісаліся яны "паміж сур'ёзнымі справамі", калі выдаваўся вольны час, і доўга яшчэ потым ляжалі ў скрыні песняра. Але гэта маруднасць працы мела і свой добры бок, бо павэдлуг яе паміж твораў Неслухоўскага няма пісьменніцкіх выкідышаў, каторыя так нярэдкі цяпер. Талент яго ўстаў перад чытачамі ва ўвесь свой рост...***

**Янка ЛУЧЫНА**

### *Не хачу памерці...*

Нехта ссек бярозку,
проста так, без мэты.
Ад спякоты сонца
ўсё вакол мярцвее.
Хто падумаць мог бы
раніцаю гэтай,
Што яна засохне перш,
чым звечарэе.
Быў алень загнаны
ля бяроз зялёных.

Чуў ён, як пагоня
больш і больш звярэе:
Трубы паляўнічых,
брэх сабак шалёных.
І жыццё закончыў перш,
чым звечарэе.

Нада мною неба
пазмрачнела рана,
Лёс дарэшты знішчыў
зноў мае надзеі.
Знікла метэорам
шчасце нечакана:
Я памерці мушу перш,
чым звечарэе.

О, яшчэ не час мне трапіць
у скляпенне.
Следам за старымі —
сумная падзея.
Лёс мой горкі!
Хіба ў гэтым прызначэнне?
Не хачу памерці перш,
чым звечарэе.

Ёсць яшчэ кахання
радасныя святы.
Неба ў хмарках белых
нада мной сінее.
Хоць мае ўсе беды
на крыжы распяты,
Не хачу памерці перш,
чым звечарэе.

Не такі нядужы, не такі стары я
І хацеў бы працы зведаць
больш яшчэ я.
Ёсць і сіла здзейсніць
мары маладыя.
Не хачу памерці перш,
чым звечарэе.

Я агонь у сэрцы адчуваю Боскі.
У душы, я чую,
дзіўны спеў мацнее.
Чуў яго не раз я
ў хатах роднай вёскі.
Не хачу памерці перш,
чым звечарэе.

### *Дзве заранкі*

Глянце, касцёлак
стаіць пад ценем
І явараў, і бярозкі.
Бег я туды з сардэчным
трымценнем —
Да дзеўчыны з гэтай вёскі.

Бег я да любай з верай,
шчаслівы,
Бег напраскі праз палеткі.
Май упрыгожыў родныя нівы,
А ўдзячнасць ніў — гэта кветкі.

Скрозь на вадзе
ў начной прахалодзе
Месяца ззянне срабрыцца.
Першым праменнем
зырка на ўсходзе
Ззяе зара-заранiца.

Кінула бляск на дрэвы і ўзгоркі,
Срэбрам іскрацца росы,
Гаснуць ад золата ўсходу зоркі,
Ззяюць блакітам нябёсы.

Ціша навокал... Спяць у тумане
Нёман, і гай, і аблога.
Жаўранкаў хор,
урачысты ўранні,
Павольна плыве да Бога.

Ну а ў хаціне, соннай і цёмнай,
Бачу — другая заранка.
Гэта хвіліна была
векапомнай —
Воблік дзяўчыны і ранка.

Марна іграюць на Нёмне хвалі,
Марна квітнеюць лагчыны,
І не яны мяне ўсхвалявалі —
Усмешка любай дзяўчыны.

* * *

Страціўшы веру, бег я дадому
З жалем, трывогай у сэрцы,
І выглядаў зусім па-другому
Час веснавы ў паняверцы.

Хоць маё сэрца скавана болем,
Сціснута сумам каменным,
Думкі мае над лугам і полем
Свецяцца золкам праменным.

Я да заранкі працягваю рукі —
Да той, што лічыў сваёю,
Каб ажылі ў маім сэрцы гукі
Песні, што стала скалою.

### *На перавозе*

"Стой, перавозчык!
Дай на пароме
Схапіць мне гэта імгненне..."
Сонца ўжо ўстала,
і ўпалі промні
На нёманскія струмені.
Бераг усланы, як дыванамі,
Белым пяском... З узбярэжжа
З шумам спадаюць
хвалі кругамі —
Плынь іх імчыць у бязмежжа.

Твар перавозчыка
пеннай бруёю
Гойдае, круціць і гоніць.
Знікне на момант ён
пад вадою —
Бліснуўшы, хваля заслоніць.
Жаўранкаў хор пераліўны
не ціхне.
З раніцы ўсё тут іначай:
То раптам драч на балоце
крыкне,
То кнігаўка дзесь заплача.
Ластаўка чыркне,
мільгнуўшы куляй,
Белаю грудкай па хвалі.
Чутна, кукуе бясконца зязюля
Недзе за Нёмнам у гаі.
Нёман блакітны! Здасца часамі,
Тут і не ўбачыш нікога.
Толькі бялеюць выспы пяскамі,
Толькі затокаў аблога.
Тут сенажаці, жытняе поле,
Абапал дарог — бярозкі.
Квецень зямлі буяе ў ваколлі,
Нідзе ні сядзіб, ні вёскі.
Толькі лясы — дубы і яліны,
Грушы самотныя ў полі...
Выгляд спрадвечны
беднай краіны,
Беднай, ды любай міжволі!
Людзі свой край, бывалі часіны,
З тугой не раз пакідалі.
Хто сустракаў у рэках чужыны
Чароўнасць нёманскай хвалі?
І калі-небудзь над Тыбрам...
Над Рэйнам ці на Дунаі
Ніхто не плакаў
птахам самотным,
Па родным тужачы краі?
Нічым і нікога не папракаю.
Хто будзе сёння ў гуморы?
Калі і скачуць — толькі з адчаю,
Співаюць — найбольш у горы.
Што мне натоўп
з кішэняй набітай?
Схіляць галаву не буду.
Я перавагу аддам адкрыта
Беднаму простаму люду.
Бачна, што цемень, гора,
няслава,
Воля — бядзе і хваробе.
Хлеб здабывае вёска крывава,
Клопат — у зморшчках на лобе.
З градак бядацкіх
плёну не будзе —
Такая ўжо наша доля.
З глебы пясчанай
хлеб свой здабудзе
Вечная праца і воля.
Прывід галечы
ў белай апратцы —
Гэта не смерць селяніна.
Ёсць чорны хлеб —
ёсць радасць у хаце.
Інакш і быць не павінны.

**З польскай мовы пераклаў
Яўген МІКЛАШЭЎСКІ.**

Запытайце ў кнігарні

# "Свет дзівосны"

*Кніжка — дзівосная!*
*Душой узнёслаю паэт*
*І сэрцам палымяным*
*У белы свет,*
*цудоўны свет*
*Навечна закаханы.*

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

Бібліятэчка школьніка ўзбагацілася новай кніжкай — "Свет — дзівосны" (Мінск, "Юнацтва", 2000). Яе аўтар — Васіль Жуковіч — вядомы беларускі паэт, празаік, перакладчык; ураджэнец в.Забалоцце Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Напачатку ён звяртаецца з прачулым уступным словам да пасрэднікаў, "сувязных" паміж аўтарам і школьнікам-чытачом, — школьных бібліятэкараў, настаўнікаў, кіраўнікоў гурткоў, у якім выказвае сваё крэда: "...дарыць немалую эстэтычную, маральную, гістарычную прастору патрыётам Бацькаўшчыны". Так, Васіль Жуковіч добра разумее дзіцячую псіхалогію, таму свой зборнік адрасуе чытачам малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту. Ён — чалавек "...рэдкай маральнай чысціні, тонкі знаўца дабра і зла, красы і цнатлівасці. Паэзія і адукацыя вытанчанылі і без таго чулае сэрца паэта, зрабілі такім уважлівым, што нават птушкі пачалі злятацца да яго і расказваць пра свае вырai, а кветкі на родным лузе сталі дзяліцца з ім сполахамі веснавога абуджэння і восеньскім сумам", — так трапна выказаўся аб ім яго настаўнік і вядомы літаратар Уладзімір Калеснік.

У пяшчотных вершах Васіля Жуковіча нельга не замілоўвацца тым, як над гаманлівымі лугавымі красачкамі "матылёк лёгенька крыляе", як пахне мята і медуніца, а напрыканцы лета "птушынае ціхае веча праводзяць буслы на марожных стажках перад адлётам у вырай". Кранае чытача асацыятыўная дэталь верша "Апошні лісток" — у кроне дрэва апошні маленькі восеньскі лісток нагадвае сэрца:

Ён хутка сарвецца.
Што мне да яго!
Але ж, маё сэрца,
Смуткуеш чаго?

Паэт вучыць дзяцей сэрцам адчуваць сэрца: "На кірмашы" сынок з матуляй аддаюць хлопчыку-калеку ўсе свае нерастрачаныя грошы. Аўтар спачувае і бадзяжнаму сабаку, і аднаногаму голубу, і бяздомным кацянятам, і трагедыі волата-дуба, якому "...неразумная дзятва асілкаву кару сякераю зняла". Вучыць беражліва ставіцца да ўсяго, хто (што) ходзіць і поўзае, плавае і лётае, гаўкае і мяўкае, вішчыць і пішчыць, кукарэкае і сакоча, бляе і мыкае, рохкае, іржэ — да ўсяго, што называецца Яго Вялікасцю Жыццём.

"Навошта войны на зямлі!" — гнеўна пратэстуе паэт супраць гвалту і здзеку над асобай Чалавека. Нікога не пакіне абыякавым яго "Сучасная балада" — сына-афганца сустракае маці, у якой "...няма і сівога валаска, а ў сына — усе сівыя". Беларусь-партызанку ўвасабляе бессмяротны подзвіг Марата Казея і запыт Іосіфа Камінскага з былой вёскі Хатынь: "Як жа сталася так, што ад вёскі — ні следу, што апошні сынок на руках дагарэў?"...

Кніга запрашае бацькоў ладзіць дзецям свята і ў будзень: няхай то будзе сустрэча з першай настаўніцай ці паход бацькі з сынам у лес па грыбы і ягады, на рыбалку, ці завітанне да бабулі на пірагі. Аўтар захапляецца майстэрствам каваля — нашчадка Багрыма, суладдзем кампазітара і танцоркі, залатымі ўзорамі з саломкі майстрыхі... Вабныя і пекныя яго павучальныя гісторыі ў вершах і байках, вясёлыя і смешныя здарэнні, калыханкі і згадкі. А да ўсяго яшчэ — загадкі. Непаўторныя Жуковічавы лічылкі, пацешкі, скорагаворкі, якія даюць настаўніку шырокі выбар для выпраўлення недахопаў вучняў пры вымаўленні асобных гукаў, складоў і слоў, спрыяюць выпрацоўцы навыкаў выразнага чытання.

Не здрадзіў свайму літаратурнаму крэда Васіль Жуковіч і ў драматургічным жанры — п'ес у яго зборніку каля двух дзесяткаў. Як у вершах і ў казках, у іх ён вядзе свайго чытача ў свет дабрыні і харaства, духоўнай культуры, вучыць відушчымі вачыма бачыць і пазнаваць акаляючы свет. Нават у сваіх фантастычных творах ён не прымае фальшы — у яго звяркі і птушкі (не кажучы пра чалавека!) паводзяць сябе натуральна, так, як тое дзеецца ў рэальным жыцці. Мо гэтым ён падкупляе і заваражвае чытача?

У абарону роднай мовы паэт сказаў сакраментальнае слова ў аднайменным вершы:

Што за дзівак
ад яе адракаецца?..
Прыклад ты з яго б
толькі не браў!
Ён пашкадуе яшчэ
і пакаецца,
Бо зразумела: сябе абакраў.

Жуковічам ставіцца пад сумненне і правамернасць ходкага ў апошнія гады паняцця "малая радзіма" ў вершы "Радзіма":

...Існуе малая трава і лаза,
Крыніцы ж вузенькае ложа.
Куток, дзе ты
першае слова сказаў,
Малым называцца не можа.
Радзіма... У ёй
да сканчэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае
малая любоў,
Святыні малой не бывае.

Аўтар без назойлівага маралізавання гасцінна расчыняе дзверы ў дзівосны свет жыцця, вучыць юнага чытача берагчы яго для сябе і нашчадкаў. На маю думку, "Свет — дзівосны" нагадвае коласаўска-маякоўскія творы для дзяцей.

Так, свет — дзівосны. Ды не менш дзівосная і кніжка, створаная талентам Васіля Аляксеевіча Жуковіча.

**Леанід РАМАНЕНКА,
выдатнік
народнай адукацыі.**

# Палёт у краіну гармоніі

Спектаклі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры балета Рэспублікі Беларусь ідуць пры аншлагах. Прыгожае мастацтва ўражвае і хвалюе. Але ж адкуль яны, гэтыя чароўныя феі і прынцы, што з'яўляюцца перад гледачамі на сцэне тэатра?

Артыстаў балета рыхтуе адзіная ў краіне навучальная ўстанова — Беларускі дзяржаўны харэаграфічны каледж.

Шлях да сцэны цярністы, складаны. Нават уступныя экзамены ў каледж адолець няпроста. Праходзяць яны ў тры туры. Спачатку камісія вывучае знешнія даныя дзяцей, якія павінны быць бездакорнымі. Гарманічны целасклад тут проста неабходны. Потым паступаючых аглядае медкамісія: трэба высветліць, ці ў парадку здароўе, ці няма супрацьпаказанняў для заняткаў балетам.

У трэцім туры выяўляюцца музычныя і артыстычныя даныя дзятвы: яны павінны адпавядаць абранай справе.

Калі экзамены паспяхова вытрыманы, пачынаецца складаны палёт у краіну гармоніі. Вядзе экіпаж да вышынь прыгажосці калектыў педагогаў, у складзе якога — зоркі балета, заслужаныя і народныя артысты Рэспублікі Беларусь.

Пачынаецца вучоба з азоў: асвойваюцца першыя рухі, першыя танцы. Але з кожным годам заняткі ўскладняюцца. Паступова навучэнцы дасягаюць таго творчага ўзроўню, які дазваляе ім прымаць удзел у спектаклях Нацыянальнага акадэмічнага вялікага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, удзельнічаць у міжнародных конкурсах маладых артыстаў балета. Дарэчы, акрамя харэаграфічнай і агульнай сярэдняй дзеці атрымліваюць у каледжы і музычную адукацыю.

Поспех немажлівы без штодзённай сумеснай працы выкладчыкаў і выхаванцаў. "Работа з дзецьмі патрабуе вялікіх эмацыянальных затрат", — заўважае мастацкі кіраўнік каледжа народны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Іваноў.

Дзеці ведаюць: трэба не толькі ўпарта працаваць, але і прытрымлівацца адпаведнай дыеты, рэжыму, каб заўсёды быць у добрай форме.

Кожны навучальны год — новая прыступка на шляху да любімай справы. А вынікі працы лепш за ўсё адлюструе справаздачны канцэрт.

Адзін з такіх канцэртаў адбыўся нядаўна ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага музычнага тэатра. Зала была поўная, шчодрая на апладысменты. Многія з паказаных рэчаў — "Італьянскі дывертысмент", "Танга Мэй", "Іспанскі" (работа педагога народнага артыста Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Іванова), па-дэ-дэ з балета "Дон Кіхот" (работа педагога народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Клары Малышавай), "Скерца" (работа педагога народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Інесы Душкевіч), адажыо з балета "Карсар" (работа педагогаў заслужаных артыстаў Рэспублікі Беларусь Марыны Пятровай і Сергея Пясцехіна), танец маленькіх лебедзяў з балета "Лебядзінае возера" (работа педагога Наталлі Сокал), "Эль-Чокала", "Эзатэрыка" (работа педагога Юрыя Лапшы) і інш. — гледачы хацелі бачыць зноў і зноў. Пра гэта сведчыў шквал авацый. Сярод выступаючых былі дыпламанты I Міжнароднага конкурсу маладых артыстаў балета ў Казані А.Бубер і В.Вапнярская.

...Пройдзе час. Сённяшнія выхаванцы каледжа стануць артыстамі балета тэатраў Мінска, Масквы, Санкт-Пецярбурга, іншых гарадоў свету. Яны адкрыюць перад аматарамі вытанчанага мастацтва яго новыя старонкі.

**Святлана МІЦКЕВІЧ.**

НА ЗДЫМКУ: выхаванцы Беларускага дзяржаўнага харэаграфічнага каледжа ў час заняткаў.

**Фота Ірыны РЭУТ.**

# Мужчыны і мужнасць — словы аднаго кораня

Гуляюць у двары дзеткі, корпаюцца ў пясочніцы, штосьці будуюць. Раптам адна з дзяўчынак заўважае бацьку, які вяртаецца з работы. Кінула цацкі, бяжыць насустрач... А бацька раскідвае рукі, падхоплівае сваю дачушку, падкідвае над галавой, і ўдваіх яны шчасліва смяюцца. Тут заўважаю каля пясочніцы другую дзяўчынку, якая сумна, з зайздрасцю глядзіць на шчаслівую сяброўку. Вочы Танюшы поўныя слёз. Цяжка, па-даросламу, уздыхнула яна і сказала:

— І мяне тата так падкідваў, і яшчэ вышэй, аж да неба...

Сціснулася сэрца ад гэтых слоў.

А зусім чужы мужчына апусціў на зямлю сваю Алёнку і падкінуў "да неба" Танюшку. І заззялі шчасцем вочы дзіцяці, яна весела засмяялася. Як мала трэба дзіцяці для шчасця.

Мужчына, муж, мужнасць — словы аднаго кораня. А ці заўсёды мы бачым у мужы абаронцу сямейнага ачага, здольнага ўзяць на сябе адказнасць за лёс народжанага дзіцяці? Без добрых бацькоў няма добрага выхавання, адны школы і інстытуты з гэтым не справяцца.

Для чалавека, асабліва маленькага, важны прыклад. Добры прыклад — лепшая пропаведзь.

У сям'і Н. трое сыноў. Сціплы, працавіты, ветлівы бацька перадаў дзецям лепшыя свае якасці. Усе сыны пайшлі па слядах бацькі, прафесійнага ваеннага. У школе гэтыя дзеці выдзяляліся дысцыплінаванасцю, акуратнасцю і стараннасцю. Бацька змог увасобіць у сваіх дзецях усё лепшае, што было закладзена ў сямейных традыцыях. Перш за ўсё — павагу да старэйшых, клопат пра іншых.

Бацька многаму можа навучыць сына. Вось сусед рамантуе машыну, а яго сын Саша побач, дапамагае. Пыхкае, стараецца хлопчык, і так прыемна назіраць за іх дружнай работай.

— Давай-ка, сынок, будзем маці дапамагаць! — і сын разам з бацькам пачынаюць насіць ваду.

— У нас сёння сцірка, — гаворыць хлопчык.

Ідуць усім сямействам у горад, побач мама і тата, дзеці важна крочаць наперадзе. Бацька падтрымлівае маці пад руку. Сын пазірае, задаволены і шчаслівы. Яму добра!

...У сям'і А. усе заняты гаспадаркай. Праца — аснова іх жыцця. Вялікая гаспадарка, вялікі агарод... Але дзеля чаго? Патрэбны грошы. Грошы... Усе размовы ў сям'і пра тое, колькі зарабілі, колькі маем, колькі трэба на машыну, хату, мэблю... Кругагляд сям'і абмежаваны да мінімуму: работа, сон, яда. А потым дзяцей ахавалі ад цяжкасцяў вясковага жыцця, выправіўшы ў горад. Прыязджалі дзеці толькі за прадуктамі.

Захварэў бацька, але дзеці не спяшаюцца, у іх свае справы... Выпрашыў бацька падзяліць спадчыну — можа, дзеці часцей наведвацца будуць? Куды там! Цяпер ён і зусім ім не патрэбны. І вось стаіць адзінокі стары каля варот сваёй хаты, углядаецца ўдалячынь. Слязяцца паблеклыя вочы. Можа, сын прыедзе? Але сына няма...

Што здарылася з намі? Чаму такая абыякавасць да жывых людзей? Скажаце, гэта нетыпова? Але зазірніце ў вёскі. Адзінокія старыя. Дзе дзеці, унукі? Мы забыліся на свае святыя абавязкі.

Як важна захаваць у нашых дзецях гордасць за свайго бацьку, за свой род, за сваё прозвішча. Самым вялікім папрокам некалі былі словы: "Ты няславіш наша прозвішча". Калі нейкае дзіця ўчыняла правінасць, у яго пыталіся: "Ты якога роду-племені?", "Ты чый будзеш?".

У кожнай сям'і ёсць — дзядулі і бабулі. Пераемнасць пакаленняў у сённяшняй сям'і была і з'яўляецца меркай многіх учынкаў. А запытайцеся ў сённяшніх маладых людзей: да якога калена яны памятаюць сваіх родных? Хто былі іх прадзеды? Якая перадгісторыя іх сям'і? Многія не дадуць адказу на гэтыя пытанні.

З 20 вучняў класа ў анкеце не назвалі сваіх дзядуль і бабуль па імені і імені па бацьку 18 чалавек. А ці не з гэтага няведання вынікае забыццё гісторыі сваёй зямлі, сямейных традыцый? Таму так часта даводзіцца чуць пра дзяцей, якія адправілі сваіх нядужых бацькоў у дом састарэлых.

Як важна расказаць дзецям пра добрыя справы і ўчынкі сваіх родных, пра тых, хто ўславіў свой род. Трэба часцей успамінаць у сям'і пра радавыя карані, пра дзедаўскія святыні. Калі дзеці прывыклі клапаціцца пра бабуль і дзядуль, паважаць бацьку і маці, то яны вырастуць уважлівымі да іншых людзей.

Добры мужчынскі ўплыў на дзяцей неабходны, як і жаночы. Без яго сямейнае выхаванне дзяцей з'яўляецца непаўнацэнным. Нездарма ж у паняцце "безбацькоўства" спрадвеку ўкладваўся вельмі горкі сэнс. Расце колькасць разводаў — дзеці застаюцца пры маці. Школьныя настаўнікі — на 80 працэнтаў жанчыны. На сходах, пасяджэннях лаюць хлопчыкаў, а яны паступова звыкаюцца з другаснай роллю ў грамадстве. У школе прозвішча хлопчыка можна пачуць з нагоды непаспяховасці, разбітага шкла, учыненага правапарушэння. Хлопчыкаў амаль не хваляць, дык ці вырастуць з іх сапраўдныя мужчыны?!

Няхай жа нашы бацькі перадаюць сваім сынам не толькі фізічную сілу, але і пачуццё адказнасці, пачуццё абавязку перад сям'ёй, перад сумленнем сваім, перад Айчынай.

Зазірніце ў сваю душу, бацькі!

**Пётр ШАЛАМІЦКІ,
настаўнік
Парэцкай сярэдняй школы
Гродзенскага раёна.**

Спорт

# Здаровым быць прэстыжна

Мінскі абласны дыспансер спартыўнай медыцыны, галоўным урачом якога з'яўляецца Кацярына Уладзіміраўна Пілюцік, старшыня савета галоўных урачоў дыспансераў спартыўнай медыцыны краіны, галоўную ўвагу ў сваёй рабоце акцэнтуе на пяці накірунках: фізкультурна-аздараўленчым, рэабілітацыйна-прафілактычным, рэкрэацыйна-экалагічным, агульнагігіенічным, культурна-асветным. Але ў іх рэалізацыі сёння ёсць пэўныя цяжкасці: 204000 школьнікаў да 14 год і 82966 падлеткаў знаходзяцца пад назіраннем урачоў у сталічнай вобласці. Больш за тое, захворваемасць вучняў на кожную тысячу іх за апошнія пяць год павялічылася ў паўтара раза. Пры гэтым розныя адхіленні ў стане здароўя — ад функцыянальных расстройстваў да хранічных захворванняў — адзначаюцца ў 58 працэнтаў дзяцей яшчэ да паступлення іх у школу. Працэнт здаровых вучняў сярод падлеткаў складае 39,3 працэнта, а сярод школьнікаў да 14 год не перавышае 30 працэнтаў (каля 13 працэнтаў — сярод пражываючых на забруджаных тэрыторыях).

Сумесна з упраўленнем аховы здароўя аблвыканкама ў апошняе дзесяцігоддзе зроблена спроба змяніць сітуацыю без істотных эканамічных затрат. Арыенцір быў узяты на аздараўленне вучняў сродкамі фізічнага выхавання па двух накірунках: на колькаснае і якаснае змяненне рухальнай актыўнасці вучняў, укараненне нестандартных урокаў фізкультуры па рытміцы, танцах, плаванні і г.д. Павялічана колькасць заняткаў на працягу тыдня. Уведзены дынамічны перапынак — фізкультхвілінка — і ўдасканалена медыцынскае абслугоўванне. На аснове яго па цыкле "Здароўе — здаровым" падрыхтавана 45 урачоў, якія праводзяць адпаведную прафілактычную работу ў навучальных установах Міншчыны, дзе асаблівая ўвага звернута на правядзенне ўрачэбнага кантролю за фізічным выхаваннем школьнікаў.

Абодва накірункі рэалізуюцца ў школах Капыля, Дзяржынска, Салігорска, Вілейкі. На працягу адзначанага вышэй перыяду ўрачамі дыспансера прааналізавана дынаміка здароўя 1390 вучняў і праведзена комплексная ацэнка па дваццаці параметрах. Вынікі даследаванняў сведчаць аб істотным паляпшэнні яго ў навучэнцаў. Так, напрыклад, прапушчаныя па хваробе дні і колькасць захворванняў з разлікам на адно дзіця зменшыліся больш чым у тры разы. Акрамя таго, на 15 працэнтаў павялічылася колькасць вучняў з гарманічным фізічным развіццём, фізічная працаздольнасць — у 1,2 раза, а колькасць здаровых дзяцей першай групы здароўя — у 4 разы і складае 10 — 20 працэнтаў супраць 2,5 у школах, дзе работа па фізічным выхаванні праводзіцца на агульных асновах.

Цяпер у практыку работы школы шырока ўкараняюцца розныя агульнаадукацыйныя і аздараўленчыя праграмы, якія садзейнічаюць павышэнню ведаў па валеалогіі і ўмацаванню здароўя вучняў сродкамі фізічнай культуры, фарміраванню здаровага ладу жыцця. Выхоўваць дзяцей трэба так, каб жаданне быць здаровым было прэстыжным. Для гэтага неабходна мяняць псіхалогію вучняў, настаўнікаў, бацькоў, урачоў.

**Пётр ШУБЯНОК,
Алена ЕВІНКА.**

# Ведай нашых!

У малдаўскім горадзе Бендэры адбыўся чэмпіянат свету па шашках-64 сярод малодшых кадэтаў. У ім прынялі ўдзел 13-гадовыя і малодшыя хлопчыкі. Нашу краіну прадстаўляў Андрэй Мацявін са Слоніма, які выступіў даволі паспяхова (ён заняў шостае месца). Андрэю толькі 12 і ў наступным годзе ён можа выйсці на старт аналагічных спаборніцтваў. Як сцвярджае яго трэнер Аляксандр Аніська, на чарговым чэмпіянаце свету яго вучань будзе сур'ёзным прэтэндэнтам на прызавое месца. Лідэрам чэмпіянату, як і ў мінулым годзе, быў украінскі шашыст Арцём Іваноў.

**Пётр ЯРАВЫ.**

# Самыя хуткія — брэстчане

***Рэспубліканскі крос, што праводзіўся ў праграме студэнцкіх гульняў краіны, прайшоў у Гродне.***

У першай групе, набраўшы найбольшую колькасць ачкоў — 182, лідзіравалі лёгкаатлеты з Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, якім прайгралі 14 балаў студэнты мясцовага універсітэта, і 19 — Беларускай акадэміі фізічнай культуры.

У другой групе паспяхова стартавалі спартсмены з Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ім уступілі студэнты Белдзяржуніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі.

У трэцяй групе першынствавалі мазыране, якія перамаглі сваіх сапернікаў з Мінскага і Гродзенскага медыцынскіх універсітэтаў.

У асабістым заліку вызначылася Таццяна Храмава з Гродна (забег на 500 метраў). "Гаспадыню" спаборніцтваў Надзею Кейка на 0,7 секунды апярэдзіла на дыстанцыі 1000 метраў Іна Краўчанка з сельскагаспадарчай акадэміі.

Фінал бегу на 1000 метраў пераадолеў хутчэй за ўсіх Віктар Гіль (Гродна). А на дыстанцыі 3000 метраў брэстчаніну Ігару Жаваранкаву ўступіў другі выхаванец Кандрата Думнова — Марк Раманчук.

Мацнейшымі на 5000- і 8000-метровай дыстанцыях аказаліся адпаведна Аляксандр Лукашэнка з Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і гамяльчанін Аляксандр Гаўрычэнка.

Калектыву Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.Пушкіна быў уручаны Кубак рэспубліканскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў.

**Пётр ШУБЯНОК.**

**Галоўны рэдактар Аляксандр Гайдук**

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Рэгістрацыйны нумар 197.

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; намеснікаў галоўнага рэдактара — 36-40-63; бухгалтэрыі — 36-53-22; рэкламы — 36-40-63; аддзелаў: школ — 36-43-62; праблем выхавання, навукі — 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі — 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў — 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем — 36-44-25; культуры — 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Ала КЛЮЙКО.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №3468
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Падпісана да друку 4.7.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.